# Селянская Доля

ВЫДАНЬНЕ НЕ ПЭРЫАДЫЧНАЕ

| № 1 (6) | Сакавік 1922. | год 2. |
|---|---|---|

## СЕЛЯНЕ!

**Цясней гуртуйцеся каля „Селянскай Сувязі!“**

**Чытайце і пашырайце вашу селянскую часопіс!**

**Усьведамляйце цёмных ды адсталых!**

**Прачытаўшы перадавайце другім!**

**Апавядайце суседзям!**

### Сакавік 1922 г.

За апошнія два месяцы ў жыцьці нашага краю адбыліся надта важныя падзеі, якія пацягнуць за сабой, магчыма, цэлы рад адпаведных вынікаў.

На́ першым мейсцы стаяць, само-сабой, выбары і адкрыцьце ў

Вільні Сойму так званай „Сярэдняй Літвы“, а разам пастанова гэтага сойму аб далучэньні ўсей Віляншчыны да Польшчы.

Усім добра ведама, што на выбары ў „Сярэдня-Літоўскі“ Сойм адмовіліся ісьці беларусы, літвіны і жыды, што выбіралі і былі выбранымі, такім чынам, адны толькі палякі.

А дзеля таго, што польскі элемэнт у нашым краі складаецца амаль выключна з абшарнікаў і залежнай ад іх дробнай шляхты, ды панаехаўшых з каралеўства і Пазнані рожных „ужэнднікаў панствовых“, то стане ясным, што ў віленскім сойме засядаюць цяпер адны толькі абшарнікі, паўпанкі ды падлыжнікі панскія. Вось яны, як гэтага і трэба было чакаць, вынясьлі пастанову аб далучэньні Віляншчыны да Польшчы і паслалі сваю дэлегацыю з чалабітнай ў Варшаўскі Сойм, каб там падцьвердзілі гэную пастанову.

І паехала дэлегацыя, ў складзе дваццаці асоб, ад віленскага панскашляхэцка - абшарніцкага сойму ў Варшаву, ў „ханскую“ стаўку ясна-вельможнага пана Пільсуцкага, каб „выявіць“ там волю жыхароў Віляншчыны аб іх бязьмерным жаданьні далучыцца ... ох, каб толькіж хутчэй, як мага хутчэй, далучыцца да Польшчы.

Само-сабой, ў Варшаве гэную дэлегацыю спаткалі з вялікай радасьцьцю. Хутка пачнуць банкетаваць, запросяць на гэныя банкеты прэдстаўнікоў чужаземных дзяржаў, будуць казаць пекныя і даўгія прамовы аб вялікай польскай толеранцыі да іншых нацыяў, аб дэмакратычных выбарах ў Віленскі сойм, аб тым, што беларусы, літоўцы і украінцы жадаюць і дамагаюцца абы толькі хутчэй далучыцца да Польшчы, што Польшча есьць найдэмакратычнейшая дзержава ў сьвеце, што ў Польшчы усім добра і вольна жывецца і г. д. і г. д.

Нарэшці Варшаўскі Сойм будзе разглядаць чалабітную віленскіх пасланцоў. Адбудуцца гарачыя спрэчкі. Эндэк ксендз Лютаслаўскі будзе стаяць за поўнае далучэньне (інкорпарацыю) Віляншчыны да Польшчы, людовец Вітос—так сама за далучэньне Віляншчыны да Польшчы, але гэтае далучэньне ён хоча так спрытна зрабіць, каб выглядала быццам—то і не далучэньне, а прэдстаўнік П. П. С. Дашынскі,

дык той у сваей доўгай і гарачай прамове будзе бараніць права народаў на самаазначэньне, будзе казаць аб вольнасьці і роўносьці, а ў канцы зробіць прапазыцыю, каб „высокі Сойм“ у Варшаве прыняў ад пасланцоў чалабітную далучанай да Польшчы Віляншчыны, згодна ясна выражанай волі „польскай большасьці“ ў „Сярэдняй Літве“—даць гэтым няшчасным „усходнім крэсам“ культурна-нацыянальную аўтаномію...

Гэтак мае адбыцца камэдыя з далучэньнем Віляншчыны да Польшчы.

А ў гэны час ў Вільні і на правінцыі ідуць пагалоўные арэшты. Віленская турма „Лукішкі“ напаўняецца беларускай і літоўскай інтэлігэнцыяй. Выдатнейшых дзеячоў, не прэд'явіўшы ім ніякага абвінаваньня, высылаюць з краю.

Гэтак, былі арыштаваны, а пасьля высланы з краю: Старшыня Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту і Старшыня Праўленьня Віленскай Сувязі спажывецкіх каапэратываў І. І. Краскоўскі, Віцэ-старшыня Праўленьня Сувязі Земляробаў А. Карабач, сэкрэтар Праўленьня гэтай-жа Сувязі Невядомскі, вучыцель Беларускай Гімназыі А. Якубецкі, сябра прэзыдыуму Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту Пракулевіч, пісьменьнік рэдактар часопісі „Беларускія Ведамасьці“ М. Гарэцкі, журналіст Міхалевіч і шмат іншых. Сярод літвіноў арыштавалі, а пасьля так сама выслалі з краю вядомых літоўскіх грамадзкіх дзеячоў і пісьменьнікаў братоў В. і М. Біржышка, кс. Кухта і шмат іншых. Ўсяго арыштавана і выслана з краю 33 выбітнейшых беларускіх і літоўскіх грамадзкіх і культурных дзеячаў. А колькі томіцца у турмах і лагэрох без суда і без уселякага сьледства....

Усе гэта яскрава паказывае, што простым, чыста фармальным, далучэньнем, Віляншчыны да Польшчы, справа Вільні і Віляншчыны зусім такі не вырашаецца.

Дый хто ў сур'ез можа прымаць тыя або іншыя пастановы зусім неправамоцнага віленскага сойму? хто з гэтымі пастановамі будзе лічыцца?—Магчыма, што адны толькі польскія паны і шляхта, дай тыя далёка ня ўсе,—будуць лічыць усе гэныя пастановы правамоцнымі і аўтарытэтнымі для сябе. Для нас—жа яны не абавязковы!

Мо хто падумае, што вялікія эўрапейскія дзержавы прызнаюць

правамоцнасьць віленскага сойму, што прызнае Ліга Нацый?—Ў тым то і справа, што і Ліга Нацый непрызнала нават правамоцнасьці віленскага сойму. А гэта азначае, што ўся хітрая дыплематычная гульня варшаўскіх палітыкаў была, казаў той, у пустую. Іх карта біта. Недапамогуць тут ужо ніякія фальшаваньні ды насільствы. Дарма, яны хочуць спагнаць сваю злосьць на беларусах і літоўцах, пры тым, на людзях, часам, зусім ня прычасных да актыўнай палітычнай працы.

Польскія паны злуюцца—знача яны неправы, знача—праўда на нашай старане.

А мы, як і раней, будзем вясьці свае змаганьне за наша сьвятое права самім быць гаспадарамі ў нашым родным краі.

Мы, як і раней, выстаўляем свой баявы покліч: вон здзірцаў! вон гвалтоўнікаў! вон акупантаў!

**Няхай жыве вольная незалежная Беларусь!**

## Уся зямля—земляробам!

Польскія паны спадзяюцца запужаць нас турмамі ды рожнымі нячувана дзікімі насільствамі. Сваімі зьверствамі яны спадзяюцца тэрарызаваць жывую нашу думку, наша імкненьне к праудзе і свабодзе. — Не, паночкі! Чым больш вы будзеце нас ціснуць і прыгнетаць, тым больш актыўна мы будзем змагацца з вашым самадурствам, тым больш жорсткая будзе барацьба.

Нас высяляюць з горада і Краю, не даюць нам магчымасьці легальна вясьці грамадзкую і культурную працу—што-ж, мы як краты зарыемся у глыбокае падзямельля, будзем капаць пад вамі глебу, будзем упарта і так доўга капаць, пакуль ваша ўлада аснаваная на безпраўі, на грубай сіле штыка і пулямета, з трэскам і грукатам паляціць у чорнае бяздоньне.

Мы гэтага даб'емся, бо з нашага боку права, бо з намі праўда і справядлівасьць!

**Т. ГЛЕБА.**

**Не аддавайце зямлю польскім грабежнікам!**

# За што іх выгналі з бацькоўшчыны.

Ў ноч з 19 на 20 Лютага ў м. Вільні польскаю панскаю Ўладаю была зроблена аблава на беларускіх грамадзкіх і культурных працоўнікоў.

Ў той час, калі ўсе добрыя людзі адпачываюць ад сваёй працы, ў кватэры беларускіх грамадзкіх дзеячоў нахлынула паліцыя, падняла на ногі іх семьі і пад кіраўніцтвам панскіх камісараў, панічоў студэнтаў Віленскага Унівэрсытэту і рожных шпігоў пачала пэратрасаць да нітачкі ўсё, што ў каго было на кватэры. Пэратраслі шуфляды сталоў, шафы, кніжкі, пасьцелі і дзіцячыя пасьцелькі, кішэні мужчынскіх і жаноцкіх вопратак, прастукалі сьцены, словам ўсе, што тольні мог шпігоўскі розум прыдумаць было пэратрэсяно. Па сканчаньні вобыскаў яны, пад канвоям аружных паліцэйскіх адпраўляліся на Лукішкі ў вастрог. Ўсяго было арыштавано да 20 чалавек. Ў турме іх патрымалі 16 дзень, а потым 12 чалавек, не папярэдзіўшы ні іх, ні іх семьяў, ў глухую марозную ночку, адправілі пад моцным канвоем на вакзал і павязлі па чугунцы. Давёзшы да Літоўскай граніцы выкінулі бедакоў па літоўскі бок, забараніўшы пры гэтым варочацца да хаты, да сваіх семьяў.

Да беларускага селянства Віляншчыны і Горадзеншчыны пэўна весткі аб гэных арэштах дайшлі, але яму ма быць не вядома за што на голавы гэных людзей звалілася такая кара.

Польскія паны закідываюць віну, што яны падгатаўлялі загавор процiў Польшчы: хацелі скінуць з беларускага народу панскую Ўладу, залажыць сваю ўласную Беларускую Дзержаву, адабраць ад паноў зямліцу і раздаць яе няімушчаму і малаімушчаму селянству, а лясы забраць у сваю казну. За такія рэчы па панскім законам абвінавачаным дзеячам пагражаў растрэл, але паны пабаяліся цяпер гэтых людзей растрэліваць дзеля таго, што Ўлада іх на Віляншчыне пакуль яшчэ не умацавана: ні адна з замежных дзержаў не згаджаецца аддаць Польшчы Горадзенскія і Віленскія абшары беларускай зямліцы. Выкінуўшы іх з айчыны на чужыну палякі думаюць, што цяпер ім лягчэй будзе закабаліць ў польскае ярмо беларускае селянства, але дарэмна. На Бацькаўшчыне, як ў Вільні, так і па ўсім абшары зямлі беларускай, засталіся сотні і тысячы селянскіх дзеячоў, якія гатовы жыцьце аддаць за лепшую будучыну свайго роднага краю. Такія людзі з'яўляюцца з кожным днём, ўсюды, як грыбы пасля дажджа ў лесе. Ні высылкай заграніцу, ні турмой ня спыніць, ня задавіць крывапіуцам панам беларускага адраджэнчаскага руху.

Дрыжыце, павукі, паны, час польскага панаваньня праходзіць, падыходзіць час расплаты!

Гэты час не за гарамі!

Браты сяляне будзьце гатовы!

**Чмель.**

# ПОЛЬСКАЕ БАЛАМУЦТВА.

Л. Толсты ў сваім лісьце ад 8/IX 1909 г. з Крэкшына на імя польскага рэвалюцыянэра пісаў між іншым гэтакія словы: „Прыгнечаньне польскага народу расейцамі, аўстрыйцамі і немцамі ня ёсьць вынікам I-га, II-га, III-га і IV-га падзелаў Польшчы, але-вынікам таго факту, што самі палякі гатовы рабіць і робяць процiў сваіх жа братоў тое самае насільства, якое яны выцярпелі ў той час, калі яно рабілась супроцiў іх“.

Прайшло ад таго часу два дзесяткі гадоў, якія ў гісторыі народаў Эўропы роўны сталецьцям, шмат здарылася падзеяў, перакроена геаграфічная мапа (карта), падняволеныя, прегнечаныя, народы, скінуўшы ярмо нявол̆і, пачалі сваё самастойнае істнаваньне, але гэтыя словы, гэтая характэрыстыка ня страцілі па гэты час сваей навізны і праўдзівасьці.

Польшча, дасягнуўшы ўсіх сваіх жаданьняў у справе дзяржаўнай незалежнасьці, паставіла сабе мэтай яшчэ ўзяць на сябе гістарычную роль Мэссіі, (Спасіцеля) прызванага з аднага боку адратаваць сьвет ад бальшавізму, а з другога аб‘еднаць каля сябе ўвесь славянскі сьвет. Дзеля гэтых высокіх мэтаў яна ў працягу трох гадоў усе сілы скіравала на захопленьне земляў сваіх бліжэйшых суседзяў: беларусаў, літоўцаў, латышоў, украінцаў і нарэшце захапіла пры дапамозе сваіх дыплематаў, па Рыжэскай умове, значную частку Беларусі, а пры дапамозе сваіх штыкоў і быццам бунтарнага „гэнарала“ Жэлігоўскага акупавала частку Літвы.

Стаўшы фактычным гаспадаром гэтых чужых ей зямель, Польшча ясна разумела, што панаваньне яе на гэтай тэрыторыі ня толькі не законнае, але і часовае, і таму яна так бязсыстэмна, сьпяшаючыся і безразультатна праводзіла ўнутраныя рэформы і настраівала прэсу і палітычных дзеячоў Эўропы.

Калі ў сфэры замежнай дыплёматыі яна бязупынна намагалася высоўваць адналітасьць грамадзкай думкі ў акупаванай частцы т. зв. Сярэдняй Літвы, быццам старонка гэтая цягне да Варшавы, дык ў сфэры палітыкі ўнутраняй яна ўсімі сіламі імкнулась распаліць нацыянальную непрыязьнь. Цяжкім прасьледаваньням падпалі ўсе нацыянальнасьці з першага дня, але самая цяжкая доля прыйшлася беларускаму народу, складаючаму там небясьпечную для Польшчы большасьць. Яго школы, яго каапэратывы, яго вуснае і друкаванае слова зьніштажаліся самым бязьлітасным чынам, нацыянальныя дзеячы сядзелі па турмах...

Тыя самыя польскія патрыёты, якія яшчэ помняць сьлезы уміленьня на сваіх вачох пры гуках польскага гымну, які патаемна пеялі дзеці польскіх школак у Пазнані, тыя самыя патрыёты цяпер прыкладаюць сваю руку да учынкаў вя-

лікай і малой ўлады, душачай ўсе беларускае.

Але беларускі народ, нават па словах варшаўскай прэсы, ўжо сіла—сіла нябясьпечная. І вось трацячая грунт пад нагамі Польшча пачынае шукаць новых шляхоў, дзеля падтрыманьня свайго аўтарытэту на аккупаванай тэрыторыі. Гэтакім спосабам для яе зьявілася новае фальшаваньне ў вобласьці дзяржаўнага права—скліканьне Віленскага Сойму.

Гісторыя ня ведае прыкладаў, каб ў рэспубліканскім краю, каторы окупаваны ворагам, маючым ў сваім распараджэньні войскі і турмы, фінансы і суд, прэссу і духавенства маглі-б вольна праводзіцца выбары ў законадаўчы вышэйшы орган.

Як праводзіліся яны ў Сяр. Літве, аб гэтым можна меркаваць па тых вестках, якія да гэтага часу была магчымасьць апублікаваць.

Ў мэты нашага артыкулу ня ўваходзіць рабіць вывады, даводзіць з лічбамі ў руках фальшаваньне выбараў, варажыць аб плянах Польшчы і г. д. Толькі на адно мы хочам зьвярнуць увагу чытачоў—гэта на тэрор, які чырвонай ніткай праходзіць праз ўсю „сыстэму“ выбараў.

Пакуль што мы павінны лічыцца толькі з тым фактам, што выбары ў Віленскі польскі Сойм скончаны і ён сабраўся.

Што нясе ён нам, беларусам?

Ужо першыя яго патугі гавораць аб тым, што беларусаў чакае цяжкая будучыня, магчыма, горшая ад той, якая была ў мінулым.

Выдатнейшыя беларускія і літоўскія дзеячы, ядыным праступленьнем якіх з'яўляецца іх вялікая міласьць да бацькаўшчыны, былі арэштаваны і пасьля цяжкіх зьдзекаў высланы з Вільні.

А надалей магчыма, што Віленскі Сойм зьменіць сыстэму барацьбы і ўзяўшы за прыклад барацьбу туркаў з армянамі пачне проста час ад часу выразаць па некалькі тысячаў беларусаў.

Але няхай Польская Ўлада памятае, што калі ня мог задушыць беларускага руху расейска-царскі рэжым, дык не задушыць яго рэжым польскі.

Цяпер беларускі народ на тэрор зможа належна адказаць.

**Гуль.**

**Зямлі і волі працоўнаму селянству!**

# Новае на стары лад.

## Як палякі складалі Віленскі Сойм ў сьнежні

1921 г. і ў студні 1922 г.

Калі Літва адкінула праэкты Гюманса—гэнную апошнюю польскую спробу скрыта паняволіць Літву і заходнюю Беларусь, польскія вярхаводы пайшлі „ва банк“, адкінулі ўсякія шырмы і маскі і загаварылі праўдзівым польскім „словам і дзелам“, ці, тое, проста перайшлі на адкрыты гвалт і пачалі арганізаваць з Варшавы Віленскі сойм, а сьродкам для гэтага ўзялі бязпрыкладны прымус. Уся справа наперад зпраэктавана была ў Варшаўскім сойму, які не пашкадаваў на выбары вялікай сумы грошаў і прапанаваў увесь „парадак“ як перадвыбарнай, так і выбарнай справы.

Усёй выбарнай справай запраўляе назначэны польскім урадам каміссар Забажэўскі, польскі чыноўнік з Варшавы, ніякіх адносінаў да Віленшчыны не маючы.

Дэкрэтам за № 427 абвешчана, што кожны, хто будзе агітаваць процiў удзелу ў выбарах, той будзе пакараны турмой да одного году. Такім чынам польскі урад адразу паставіў выбарную справу на польскія рэйкі,—звычайнае права грамадзяніна Урад аб‘яўляе абавязкам, чаго ніколі ня было і нема ня толькі ў дэмакратычных дзяржавах, але нават у манархіях.

Далей, польская ўлада пагражае цяжкімі карамі пасьля выбараў тым, якія адхіляцца ад выбараў—каму турмой (ў Лідзкім, Троцкім паветах), каму высылкай ў Савецкую Расею (ў Сьвенцянскім, Ашмянскім паветах), каму іншымі рэпрэсіямі, а жыдам—пагромамі.

Яшчэ далей, каб заахвоціць да выбараў, дзенедзе палякі абецаюць прэмію ад аднэй да пяці тысячаў марок.

Пачалася перадвыбарная справа. Назначэны былі асобныя чыноўнікі „па выбарам“ на кожны район. Пачалі састаўляць сьпіскі, рэгістрацію тых, якія маюць права вучасьцьця ў выбарах. Запісывалі па „свайму выбару“ толькі бязпечных, якія, па іх думцы, не пойдуць насупроціў польскіх захватных плянаў. З гэткай прычыны масса селянства і інтэлігэнцыі—непалякоў не папалі ў сьпіскі. Замест таго ў сьпіскі запісаны ўсе чыноўнікі, шмат жандараў, жаўнераў і рожнага польскага зброду, чужынцаў у краю.

Як прыйшоў час выбароў, дык гэных перафарбаваных быццам та жыхароў Віляншчыны „замашкіравалі“ ў адзежу сялянаў і вывозілі вагонамі ў Вільню для вялікай пацехі палякоў, аб чым яны са сьмехам гутарылі паміж сабой, успамінаючы, мае быць, тыпычнага свайго продка—фацэта Заглобу.

Быбо шмат і такіх выпадкаў, што жандары разам з міліцыяй складалі сьпіскі жыхароў ў тым ці іншым районі, ня турбуючы жыхарства, ў лаяльнасьці якога яны ня былі пераконаны, і прыказывалі солтысу падпісаць сьпіскі ды прылажыць сваю службовую пячатку. Калі солтыс адмаўляўся, яму пагражалі, а калі ня згаджаўся, каралі.

Практыкаваўся і такі спосаб. 29 сьнежня 1921 г. ў Рудомін, Віленскага павету, прыехаў Начальнік 2-га рэвіру памешчык Ясэвіч і абвесьціў, каб ўсе жыхары прымалі удзел ў выбарах, а потым паслаў солтыса па хатах з двома лістамі і наказаў яму на адным лісьце запісаць згодных, а на другім—нязгодных. Апошніх вялеў арэштаваць і адаслаць ў м. Яшуны, ў яго канцэлярыю.

Былі і такіе „выбарные чыноўнікі“, якія практыкавалі просты і пэўны спосаб. Дзе народ адмаўляўся ад выбараў, там гэны гэрой паяўляўся з жандарамі і міліцыяй, якія ізбівалі нагайкамі таго ці іншага, пакуль той не згаджаўся. Такія выпадкі вядомы з Лідсскага і Троцкага наветаў. На аднэй станцыі чугункі Вільна-Городня такі „выбарны“ гэрой вельмі пахваляўся, як нагайкамі загяняў да выбараў жыхарства.

Усіх, хто ня толькі агітаваў працію выбараў, але каго толькі улада падайзрэвала ў гэтым,—арэштавалі. Так ў Сьвенцянскім павеце арэштавалі ксяндза Каўстанта Стоповіча, ў Ашмянскім павеце арэштавалі, (ў вёсцы Ветхаво), і набілі беларускага вучыцеля Івана Дудко, і Южыка, ў вёсцы Заскевічі—вучыцеля Гаўрыліка, ў вёсцы Міхневічі, П. Яцэвіча, Г. Казлоўскага, М. Козэла, Г. Рубана, ў вёсцы Амэлін арэштавалі М. Рамановіча і Гусака; ў вёсцы Ардзеј—А. Байду; ў вёсцы Міцкевічі—Царіка і ў розных мейсьцох шмат іншых. Арэштаваных абвінавачывалі ў нейкім „беларускім загаворы“ ў сувязі з выбарамі, але ўзапраўды іх, па думцы палякоў, трэба было выдаліць на час выбараў.

Агульна выбарная справа была самым дзікім гвалтам, тэррорам, зьдзекам і ашуканствам. Кіравала рука з Варшавы, а здзейсьнялі варшаўскія пляны панаехаўшыя з Польшчы ужэнднікі, рэвіровы, жандары і рожны польскі зброд. Працавалі на славу Польшчы і мейсцовыя тыпы з пароды Заглобаў і Кміцыцаў, хто ашуканствам і зьздекам, хто гвалтам і тэррорам—учынкамі „варшаўскай культуры“.

Ня гледзячы на ўвесь страшэнны гвалт і бязпрыкладнае ашуканства польскай справы, цэлыя валасьці адмовіліся ад выбараў, як Войстомская, Бэніцкая, Сморгонская і іншыя. А ў тых валасьцях, дзе ўлада прымусіла солтысоў падпісаць сьпіскі, прайшоў у выбарные, ўселякі падстаўны польскі зброд і чыноўнікі.

Так палякі злажылі склад Віленскага сойму, але, ма быць, вынікі не задаволілі іх, таму што зараз-жа, пасьля выбараў, гэтай агіднай трагыкамедзіі, пачаліся агульные арэшты літоўскіх і бела-

рускіх выдатнейшых дзеячоў, а потым і іншых літвіноў і беларусоў, якімі былі запоўнены Вілянскія турмы.

Па апошнім весткам, ўсяго арэштавана палякамі, пасьля выбараў, да 150 літоўцаў і беларусоў. А для непакорных палякам селян, бойкатаваўшых выбары, „культурные“ палякі, акрамя пабояў, штрафаў і арэштаў, прыдумалі яшчэ асобную інквізычыйную пытку,—дапекаюць няшчасных „фурманкамі“, так што хто мае каня, мае у тым свае няшчасьцьце, не выходзіць з пад фурманкі, а, знача, з пад холаду, голаду і нядрэмлючага жандарскага вока, церплячы нязносныя абіды і зьздек.

Гэты няпоўны малюнак выборнага працэссу ў Віленскі сойму дае адначэ значную характэрыстыку мэтодаў здзейсьненя палякамі іх захватных дамаганьняў, і блізкае параўнаньне гэтага працэссу з працэссам Люблінскага сойму 1569 году. Тады у Любліні паважаные беларускіе і літоўссіе паслы, не згоджаўшыяся на унію і выехаўшые нават з Любліна, гвалтоўна з дарогі павёрнуты былі назад. На каленях са сьлязамі прасілі палякі астатняга ягэллона Сыгызмуида Аўгуста не губіць агульнай іх і яго Гэдзімінавай Бацькаўшчыны—Вялікага Княземства Літоўскага прылучэньням да Польшчы. Цяпер тута, ў „Жэліговіі“ набегшы з Польшчы рожны польскі зброд топчэ нагамі і гнойць ў турмох патомкаў тых-жа літоўцаў і беларусоў і зноў гвалтоўна цягне іх да польскага ярма. Тады польская справа хавалася за астатняга бязвольнага ягеллона, цяпер замашкіравала сябе агідным гэроям новай польскай „культуры“-Жэлігоўскім, у імя вядомага польскага шаленства і самадурства.

Трэба праўдў сказаць, што з часоў Люблінскай уніі палякі „прагрэссіравалі“: іх гвалт і здзек XX сталецьця куды сільнейшы ад гвалту і шаленства іх ў XVI сталецьці. Тады яшчэ ў палякоў прыметна было хоць малае разуменьне права і нейкае падобства стыду. Цяпер-жа ў учынках іх не відаць ні таго, ні другога.

**Радзім.**

**Наша сіла—ўарганізаванасьці нашай!**

# Зацея польскай шляхты.

Эх ты, мать, моя старонка,
На выбітным, ты, шляху!
Знаць знінацку, знаць спрасонку,
Здалась шляхціцу—ляху.
Панства хмарай прыняслось
І мяркуе зрабіць штось.

Пан вусаты дае раду—
—Войска для паноў зьбіраць,
А жаўнерам у награду
Зямлю бежанцаў аддаць.
Затрубілі у ражкі:
„Гэй, зьбірайцесь, дурачкі!“
Набралось, відаць, немала
„Панскай ласкі“ хто жадаў,....
Але землю куля дала,
Абецанку штык спаўняў.
Пан жа ж толькі круціць вус:
„Панская зямля — няруш!“
На падмсгу панскай справе
Каланістаў завялі,
Беларускую зямельку
Ім у ўласнасьць аддалі.
А гаротны наш народ
Ўсе марнее з году ў год.

Панства удзяржу ня знае —
Ўсё ім мала, ўсё аддай
І, нарэшці, загадала:
Ў Вільню, ў сойм іх выбірай.
Ўраз сабраўся панскі гад
І дае такі загад:
„Вільню, нашую старонку —
Аддаць польскаму шляхценку“
Мы-ж на панскі, на прыказ
Можэм даць такі адказ:
„Панскі сойм ёсьць у Варшаве,
Ўсе паночкі,—гэць туды!
Мы свой лад збудуем самі
Бяз зацей і бяз нужды.
Хто-ж ня выйдзе прэч дабром,
Таго будзем гнаць калом!“

**Пуцята.**

# Доля сельска-гаспадарчыхъ работнікаў у „Сэрадняй Літве“.

Нідзе на сьвеце паны абшарнікі не крыўдзяць працоўнага народу, не пьюць яго кроў так, як у нас пад польскай акупацыяй. А гэта дзеля таго, што ўсюды ў другіх старонках і багатые і бедные людзі належаць да аднае нацыі, значыць да аднаго народу, і багатые глядзяць на бедных як на сваіх малодшых братоў. Ў нашым краі здарылося так, што як толькі абшарнік так паляк, як рабочы так беларус. Паны, ня будучы націянальна звязаны з рабочым чалавекам, глядзяць на яго, як на жывёлу. Разсеўшысь па сваіх маёнтках, акружыўшы сваімі палямі суседнія вёскі, яны робяць з селянамі тое, што павукі з мухамі, папаўшымі ў іх пауціну. Высасываюць кроў, самі жырэюць, багацеюць, а дабытыя селянскім потам і крывавою працаю капіталы вязуць заграніцу і там прапіваюця

з распутнымі кабетамі, або праігрывзюць у карты.

Ў той час як гарадзкія работнікі і у нас дзякуючы сваей з‘арганізаванасьці, ужо дабіліся добрых варункаў працы і досыць высокага заробку, сельско-гаспадарчыя работнікі працуюць і цяпер, як у часы паншчыны, а жывуць як у галодныя гады. Каб ня быць галаслоўнымі мы параўнаем жыцьце нашых сельскіх работнікаў з жыцьцем такіх жа работнікаў другіх старонак.

У суседніх дэмакратычных краёх як Літва і Латвія, дзе Улада знаходзіцца у руках выбарных народ, парабкі па маёнтках атрымліваюць па 10 пудоў ардынарыі і ў перакладзе на п. грошы 10,000—15,000 польскіх марок пэнсіі ў месяц. У Віленшчыне паны прымушаюць у два разы больш працаваць і плацяць 2—3 пуда ардынарыі і па 100—200 н. марок ў месяц. Часамі не хочуць і гэтага плаціць.

Каля Вільні ёсьць маёнтак Шумск, ў якім гаспадарыць старая ведзьма Альжбета Камарыха. За трохгадавую працу у гэнай пані работніца-ўдава, муж якой быў забіты на варце нанскага дабра, замест пэнсыі атрымала 18 аршын бархану. Два сыны гэтай самай ўдавы так-сама працуюць дарма бо ня можна лічыць за плату 25 фунтаў хлеба які выдаецца што тыдзень на гэту нешчасную сямью з пяці-чэлавек. Ня маючы за што адзецца работнікі гэтага маёнтку ходзяць у трантах і басыя.

Паляк багач Ванькович з маёнтку Пяташы, зазлаваўшысь на работніка Мацея Рубеля, праслужыўшага яго вераю і праўдаю 25 гадоў прагнаў яго нешчаснага са службы, выкінуў з кватэры і наказаў фурману вывязьці за межы сваего маёнтку і кінуць ўсю сямью ў поле. Разцягнуў ён у полі палатку, стаў у ей жыць. Гэта было ранняю вясною прошлага году. Жонка захварэла на рады, а дзеці на тыфус. Усім ім прыйшоў бы канец, каб не зжалілася сялянка ўдава з бліжэйшэй вёскі. Калі Рубель падаў на пана Ваньковіча ў суд, астатні завез сваему прыяцеою Яшунскаму „сэндзі пакою“ 10 пудоў жыта хабару і пан сэндзя пана Ваньковіча апраўдаў, а рабочаму Рубелю ў іску адмовіў. Трэба адзначыць, што гэты самы п. Ваньковіч з‘яўляецца віцэпрэзэсам („Zwiąnzku ziemian“) — саюза паноў ды паўпанкаў.

Польскій гэнэрал пан Мітрафан Ліпніцкій у маёнтку Зарычаны плаціць сваім работнікам па 2 пуда ардынарыі і па 100 марак у месяц пэнсыі. Вясною 1921 года сына работніка Дамініка Цярэшкі за тое, што хацеў дарма працаваць, так пабіў, што бедак доўга хварэў.

Землеўласьнік маёнтку Дварышчы Віленскага павету пан Вітольд Прагалінскі ў час першага прыхода ў Вільню бальшавікоў заявіў сябе камуністам, заняў у бальшавікоў высокую пасаду і захапіўшы вялікую суму грашаў уцёк да Варшавы, ў Вільню звярнуўся афіцэрам польскага войску і пріехаўшы да маёнтку даведаўся, што яго хлебны запас пры бальшавікох быў падзеляны паміж яго-ж

работнікамі. За тое што адбыўся раздзел хлеба палічыў вінавайцаю старшага маёнтковага работніка—садоўніка Войткевіча і застрэліў яго. Цяпер гэты ягомасьць на тыя грошы вядзе вялікую спэкуляцыю.

Ведаючы гэтае і шмат другіх падобных ім фактоў з жыцьця сельскіх рабочых, група ідэёвых працоўнікоў пастанавіла прыйсьці на помач гэным няшчаснымъ рабом XX веку і задумала арганізаваць іх ў вялікі Саюз работнікаў Сельскай-Гаспадаркі. Апрацавалі Статут і па зацьверджэні яго Ўладаю пачалі арганізоўваць работнікаў Віленскага павету. Але скора Старшыня Саюзу-Букін, быў арыштаваны і пасаджаны у турму, дзе прасідзеў 7 месяцаў, а яго таварыш Цярэшынко, не маючы чаго есьці, пакінуў Саюз і паехаў шукаць сабе заробку. У Саюзе пачалі працаваць двое людзей Карабач і Невядомскі. Імі быв апрацаваны цэннкік, на падставе якога рабочым павінны былі землеўласьнікі плаціць па 7 пудоў ардынарыі і па 1500 марок пэнсыі ў месяц. Цэннік падалі Ўладзе польскай на зацьверджаньне, але ён быў паложаны, як кажуць, пад сукно. Тады падалі мэмарыял ў якім апісалі варункі жыцьця рабочага і зноў дамагаліся зацьвердзіць цэннік, бо рабочыя не маюць магчымасьці так далей жыць. Характэрна, што вайшоўшыя ў гэны час ў Саюз польскія сацыялісты З. . . . . і Г. . . . . адмовіліся падпісаць мэмарыял і ён быў пададзены толькі за подпісам тых-жа Карабача і Невядомскага. Меморыял так сама не памог. Нарэшце было вырэшана склікаць канфэрэнцыю работнікаў з усей Сярэдняя Літвы, на якой павінна было абгаварыцца паміж іншым і пытаньне аб цэнніку. Да гэнага часу мелася з'арганізаваныхъ 14 адзелаў з агульным лікам да 4000 работнікаў. 26—27 сьнежэня ў Вільні адбылася канфэрэнцыя работнікаў, на якой быў выбраны Урад, ў склад якога вайшлі акрамя двух вышэй упамянутых асоб яшчэ грамадзяне Пракулевіч і Родзэвіч, а ў Віленскі павятовы Урад Лемеш і Палікша. Галоўны Урад пачаў інтэнсыўна працаваць. Пад яго націскам галоўны інспэктар працы прымушаны быў склікаць нараду прэдстаўнікоў ад Саюзу работнікаў і Саюзу паноў.

Прэдстаўнікі работнікаў цьвёрда стаялі на тым, што цэннік трэба зараз жа зацьвердзіць, а паны вілялі хвастом. У канцы канцоў заявілі, што яны склічуць з'езд абшарнікаў, на якім абгавораць справы цэннікаў і другія работніцкія пытаньня. Грамадзяне Пракулевіч і Невядомскі затрэбавалі каб гэты з'езд быў скліканы у трохтыднёвы тэрмін. Паны як быццам гэтыя варункі прынялі і на гэтым разыйшліся. Праз невялікі час ўсе беларусы працаўнікі Сельска-Гаспадарскага Саюзу былі арыштованы. Так сама быў арыштованы прэдстаўнік ад жыдоўскай сэкцыі гр. Валошын, але ў хуткім часе быў звольнены. Не арыштавалі толькі чамусь прэдстаўнікоў ад палякоў. Паны абшарнікі могуць цешыцца. Перамога на гэны раз засталася з іх боку. Цяпер і[illegible]ня трэба склікаць з'ездаў ў

справе работнікаў. Могуць прадаўжаць іх крыўдзіць і надалей, але ці на доўга? Пан сьпіць спакойна, але зато ня сьпіцца бедаку работніку. Ляжыць ён галодны на цьвердай пасьцелі і думае моцную думу.

Мы пэўны, што разбуджаны Вялікай вайной і рэвалюцыяй рабочы дадумаецца, як свайму гору памагчы, а дадумаўшысь, зробіць тое, што трэба. Нам застаецца толькі падбадрыць рабочага, каб ён не сумаваў, ды напомніць Беларускую песьню:

„Ад веку мы спалі і нас разбудзілі,
мы знаем што трэба рабіць.“

„Што трэба свабоды, землі чэлавеку,
што трэба паноў нам пабіць“.

**Овад.**

## Хай згіне паншчына!

## ІДЗІ....

Вышла я з хаткі, дарожка ідзець,
Бачу на сустрэч бабулька паўзець....
Благаславіўшы і кажа „ідзі,
Вясковы ты люд ада сна разбудзі“....

Шла я дарогай поўнай цярней....
Трудна мне было, а йшла я далей,
Ў сьлед мне крычало, „ідзі ды ідзі,
Працоўны ты люд ада сна
разбудзі“...

Іду я дарогай—гай ціха шуміць.
Я чую як ён да мяне шапаціць...
„Кінь ўсё, не шкадуй, а ідзі,
Там селяніна ад сна разбудзі“....

Вышла на поле—хлеб сьпелы стаяў,
Спусьціўшы галоўку, ён сумна
шаптаў ..
„Нас возьмуць чужыя, хутчей ты
ідзі—
Нашых селян ада сна разбудзі“...

**В. Мурашка.**

## ОЙ МАЦІ.

Ой, маці, маці, Беларусь,
Хто-ж пажалець цябе ўзяўся-б?
Хто-ж твае раны у грудзях
Лячыць з уменьнем ўсім прыняўся-б?

Хто-ж сваю кроў, дзеля цябе
Уліў бы ў грудзі, ажывіў бы,
Хто-ж так, як родныя бацькі,
Дзіцё радное прытуліў-бы?

Ты, маці, плачем, плачем усё,
Ўсе твае дзеці бедны доляй,
Хто-ж асушыць іх сьлезы можа
Сваею ўладаю і воляй?

А твае цела рве палач,
Пляндруюць ворогі ліхія,—
І льецца усюды жальба, плач,
Страданьні, енкі нізямныя.

Вер, прыдзе час-і для цябе
Ўзыйдзе сонейка свабоды,
Ты зноў пачнеш свае жыцьцё
Ва славу роднага народу!....

**Мікола Бяздольны.**

## НА АБАРОНУ.

На што дымілісь коміны заводу
І працавала столькі там народу?
Каб падтрымаць маскоўскую карону
..... На абарону!

На што лілісь ваяцкой крыві рэкі,
За што цярпеў ваяк абразы,
зьдзекі?
Для гонару рамаоўскага трону
..... На абарону!

Цароў перавялі агідную пароду,
Ці-ж слонцэ вольнасці узыйшло
дзеля народу?
Для Польшчы і Масквы на вузень-
кім загону
Працуе беларусь ...... на абарону!

**Алесь Смаленец.**

---

## Гымн паўстанцаў.

**(Пераймяньне з сэрбскага).**

Хто з нас Бацькаўшчыну любіць
І беларус душой —.
Хай сьпяшыцца, не марудзіць
На адкрыты бой!
(Прыпеў) На бой, на бой, на бой,
крывавы бой!

Доўга мы жылі ў няволі,
Нас гнабіў нядруг.
Час прышоў. Ярма даволі.
Рвецца хай ланцуг (прыпеў)

Ўжо настала адраджэньне
Знаем мы сябе.
Ў бой наперад! Вызваленьне
Наша ў барацьбе. (прыпеў)

Хто з нас бацькаўшчыну любіць
І беларус душой,
Хай сьпяшыцца, не марудзіць
На адкрыты бой! (прыпеў)

**Ігнат Гудок.**

# ГОРАДЗЕНШЧЫНА.

**(ад уласнага карэспандэнта).**

Сумны выгляд мае наша Горадзеншчына. Цяжка жывецца тут простаму, не панскаму, селянскаму люду. Вяртаецца шмат уцякачоў з далёкай Расіі і што-ж яны знаходзяць пасьля доўгіх гадоў цярпеньняў і беспатольнай нуды? — Яшчэ большыя цярпеньні, яшчэ большую нуду Народ ад голаду памірае. Ні з куль няма дапамогі. Распаўсюджываюцца пошасьці і рожныя хваробы. Нават хаты няма як пабудаваць, бо улада польская ня выдае лесу на адбудову вайной папаляных нашых весак. А ў гэты час нішчыцца лес—наш беларускі лес, і вывозіцца за граніцу. Кажуць польская казна ад гэтага багацее, падымаецца вартасьць маркі. Але як нашаму брату цярпець і гніць па акопах ды рожных зямлянкахъ!... Так, вымірае наша Горадзеншчына, асабліва дзеці і старыкі. Што будзе, калі

гэткія парадкі працягнуцца і на далей? Селяне з жахам углядаюцца на будучыну. Усе пэўны, што польская улада сьвядома так робіць, каб вынішчыць наш народ, бо хоча заўладаць нашай беларускай селянскай зямлей. Калі ня будзе нам ні з куль дапамогі, ўсе мы тут загінем і, на з прадвеку нашай беларускай землі, будуць жыць польскія каланісты.

Гэткія сумныя весткі прыходзіцца чуць амаль у кожнай вёсцы, амаль у кожнай хаце.

Але далёка ня ўсё так безнадзейна апускаюць свае мозольныя рукі. Ёсьць моладзя селянская, якая хоча жыць і хоча змагацца. Цікава адзначыць, напрыклад, што ў Сакольскім павеце, яшчэ ў 1918 годзе адыйшоўшым да Польшчы, ніхто ня хоча ісьці у польскае войска. Ёсьць цэлыя вёскі, ў якіх селянская моладзь хаваецца ад вайсковай службы. Жандары, часамі робяць аблавы, але дзе там—ўсе так спрытна навучыліся хавацца, што рэдка каго арыштоўваюць. А калі арыштуюць, у турму пасадзюць, а пасьля адашлюць ў якую небудзь вайсковую часьць, дык ізноў уцекаюць. Ёсьць такія, што па тры гады ужо хаваюцца. І гэта ня толькі адны праваслаўныя беларусы, а і каталікі нават. „Мы, кажуць, ня хочамо служыць ў польскім войску. От, што хочуць няхай сабе робяць, а мы ў польскае вайска ня пойдзем служыць“....

Рэшта—чакаюць вясны, а вясной, калі зазелянеюць на дрэвах лісьцьця, ўсе спадзеюцца нейкай змены.

У нас вельмі ахвотна чытаюць „Селянскую Долю“. Селяне надта здаволяны. Просяць, па магчымасьці, як найбольш прысылаць.

Будземо чакаць ад вас указаньняў, што і як нам трэба рабіць. Не забывайце нас, мы ўсецэла будзем з вамі. Бо той шлях, які нам паказвае „Селянская Доля“, — праўдзівы ёсьць шлях, мы па гэтаму шляху пойдзем і здабудзем сабе —зямлю, волю і лепшую сьветлую долю!

**Рысь.**

## ЗЬМЕСТ № 1 (6).



Выдавец: Сувязь Беларускага Працоўнага Селянства
Рэдактар: Рэдакцыйная Камісія.